*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 18(178) ◈ 4 траўня 1994 г. ◈ Кошт — 100 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ

***ДЛЯ ЎВЯДЗЕННЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ВАЛЮТЫ І ЗАБЕСПЯЧЭННЯ ЯЕ БЯСПЕКІ У БЕЛАРУСІ СЁННЯ ЭКАНАМІЧНЫХ УМОЎ НЯМА, ЛІЧЫЦЬ НАМЕСНІК СТАРШЫНІ САВЕТА МІНІСТРАЎ МІНІСТР ЭКАНОМІКІ СЯРГЕЙ ЛІНГ.** Хоць тэхнічна, на яго думку, рэспубліка гатова да гэтага кроку. Для ўвядзення нацыянальнай валюты Беларусі неабходна стварыць умовы. Сярод іх — мець валютны рэзерв ці залаты запас у памеры 500—700 мільёнаў долараў ЗША, якіх цяпер у нашай краіне няма. «Таму мы і зрабілі крок, каб у гэты перыяд абаперціся на расійскі рубель. Ну а далей жыццё пакажа...»,— заўважыў С. Лінг. Так што яшчэ ёсць надзея на ўласную нацыянальную валюту.*

**«...ДЗЯРЖАВА ЗНАХОДЗІЦЬ МАГЧЫМАСЦЬ ПАДТРЫМКІ БЕЛАРУСКАМОЎНАЙ ЛІТАРАТУРЫ, ЛІТАРАТУРЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І ЮНАЦТВА шляхам устанаўлення выдавецтвам з бюджэту рэспублікі пэўных дзяржаўных датацый. Урад разумее, што гэтага сёння мала. І тым не менш будзе ўсё рабіць для таго, каб такое становішча змяніць да лепшага» — гэта радкі з прывітання да ўдзельнікаў XI з'езда пісьменнікаў Беларусі, якое даслаў на пісьменніцкі форум (з'езд адбыўся 27—28 красавіка) Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч. Шкада, што на з'ездзе сам Вячаслаў Францавіч не прысутнічаў, бо да яго ў пісьменнікаў ёсць шмат пытанняў...**

***СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА МЯЧЭСЛАЎ ГРЫБ ПРАВЁЎ ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЮ** па выніках свайго візіту ў Страсбург і Бухарэст. Як адзначыў М. Грыб, дэпутаты краін Еўрапарламента лічаць, што на Беларусі не адбываецца ніякіх перамен і краіна па-ранейшаму застаецца таталітарнай дзяржавай. Мячэслаў Грыб зноў без энтузіязму пракаменціраваў падпісаны дагавор аб аб'яднанні беларускай сістэмы з расійскай. У такім выглядзе, на думку М. Грыба, дагавор нельга ратыфікаваць.*

**З 29 КРАСАВІКА ДА 1 ТРАЎНЯ — НА ВЯЛІКДЗЕНЬ І З 7 ДА 9 ТРАЎНЯ — НА РАДАЎНІЦУ — БУДЗЕ АДКРЫТА БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКАЯ ГРАНІЦА.**

***24 КРАСАВІКА ЦЭНТРАЛЬНАЯ ВЫБАРЧАЯ КАМІСІЯ ПА ВЫБАРАХ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ЗАВЯРШЫЛА ПЕРШЫ ЭТАП ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ** — рэгістрацыю ініцыятыўных груп грамадзян па вылучэнні кандыдатаў на галоўную дзяржаўную пасаду. Такіх груп набралася 19. Але мала верагодна, што ўсе з іх збяруць 100 тысяч подпісаў у сваю падтрымку.*

***26 КРАСАВІКА Ў СТАЛІЧНЫМ ПАРКУ ДРУЖБЫ НАРОДАЎ,** ля памятнага знака ахвярам Чарнобыля, адбыўся мітынг. За нашу шматпакутную Беларусь адслужылі малебен праваслаўны і каталіцкі святары.*

**ЧАРГОВАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА** адбудзецца пасля абрання Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

*Глядзі ў корань!*

## ЗРАБІЛІ «КРОК», ДЫ НЕ Ў БЕЛАРУСКІ БОК

Стаў ужо збітым выраз пра тое, што некаторыя рэчы магчымыя толькі на Беларусі, як ў «запаведніку бязглуздасці», бо ў іншых краінах свету гэткае нават уявіць немагчыма. Толькі, відаць, у нас вышэйшая ўлада ў большасці сваёй марыць знішчыць кволы суверэнітэт уласнае краіны, якую, дарэчы, яны і краінай не называюць, а ўсё ўжываюць слова «рэспубліка». Толькі ў гэтай краіне дзяржаўнае тэлебачанне не ёсць нацыянальнае.

А вось і яшчэ «перл»: 9 красавіка ў эфіры праграма «Крок». Прыгожая, абаяльная журналістка Тацццяна Ягорава наведвае Менскае суവораўскае вучылішча. Размова з маладымі, статнымі беларускімі хлопцамі — навучэнцамі гэтае ўстановы — ідзе аб будучым беларускага войска, у якім ім служыць, аб тым, што некаторыя з лепшых змогуць вучыцца ў амерыканскай ваеннай акадэміі ў Вест-Поінце. І ні ў кога не ўзнікае думкі, якім здзекам выглядае ў год 200-х угодкаў вызвольнага паўстання 1794 года слова «сувораўскае» ў назве вучылішча, якое рыхтуе будучых беларускіх вайскоўцаў. Бюст расейскага палкаводца, які заліў чалавечай крывёю паўстанне беларусаў, дагэтуль «упрыгожвае» тэрыторыю вучылішча. Дарэчы, ніхто з гэтых беларускіх «сувораўцаў» не ўзгадаў аб тым, што крэпасць у Вест-Поінце, дзе зараз акадэмія амерыканскіх вайскоўцаў, пабудаваная калісьці пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі і ягоны ўклад у незалежнасць Злучаных Штатаў шанавалі і шануюць амерыканцы. У нас жа, на Беларусі (і гэткае магчыма толькі тут), ушанаваны карнік Сувораў. Мала таго, дык на радзіме Касцюшкі і дагэтуль «здравствует» музей Аляксандра Васільевіча.

Юрась ПІВУНОЎ,
г. Магілёў.

*У ГАЗЕТАХ*

## Дзіўная пазіцыя

Пад рубрыкай «Актуаліі» незалежная менская газета «Свабода» (№ 9, 14 сакавіка г. г.) змясціла артыкул народнага дэпутата Вярхоўнага Савета Уладзіміра Новіка «Беларусь можа пазбавіцца ўласнасці на 5 мільярдаў долараў і 500 мільёнаў долараў штогадовага даходу».

Аўтар аналізуе ўхваленыя нашым Саўмінам умовы, паводле якіх беларускае дзяржаўнае прадпрыемства «Белтрансгаз» павінна пасля ратыфікацыі дакумента Вярхоўным Саветам увайсці ў склад расійскага акцыянернага таварыства «Газпром». У. Новік прыходзіць да высновы, што гэтыя ўмовы «для нас кабальныя. Беларусь практычна траціць правы на ўласнасць, а значыць, і на кантроль за дзейнасцю газатранспартнай і газаразмеркавальнай сістэмы на нашай тэрыторыі».

Да слова, згаданая ўласнасць — «6,5 тысячы кіламетраў газаправодаў, 7 кампрэсарных і 160 газарэдукцыйных станцый», паводле самых сціплых ацэнак, сёння па сусветных цэнах каштуе каля 5 мільярдаў долараў. Расійскі ж бок яе кошт адвольна і, вядома, на ўласную карысць занізіў прыкладна ў 5000 разоў. За раз за транспарціроўку расійскага газу праз беларускую тэрыторыю ў краіны Еўропы «транзітны падатак не плаціцца і наша дзяржава недалічвае ў бюджэце... да 500 мільёнаў долараў штогод».

Да пералічаных аўтарам артыкула велізарных валютных страт беларускім бокам у выпадку перадачы сваёй газавай гаспадаркі расійскаму «Газпрому» дададзім яшчэ адну важную акалічнасць. У беларускіх сродках масавай інфармацыі ўжо выказвалася геніяльна простая ідэя рэальнага выйсця для Беларусі з энергетычнага крызісу. Яе сутнасць у тым, каб на адгалінаваннях беларускіх магістральных газаправодаў (дзе ўнутры ціск — 50 атмасфер) устанавіць газавыя турбіны, якія закруцяць ротары генератараў.

Як вядома, галоўны абавязак любога ўрада суверэннай краіны — бараніць і адстойваць глабальныя нацыянальныя інтарэсы сваёй дзяржавы. Калі беларускі Саўмін не з'яўляецца выключэннем з агульнага правіла, то яго пазіцыя пры падпісанні пагаднення з расійскім «Газпромам», мякка кажучы, дзіўная.

М. В.

*РЭХА*

## Старасць — не радасць

Прыказка, якая вынесена ў загаловак, не заўсёды адпавядае сапраўднасці. Бывае і ў старасці людзі радуюцца жыццю. Але гэта ў выпадках, калі стары чалавек не абцяжараны пакутамі ад хранічных хвароб і, што нават яшчэ істотней,— адчувае спагаду і падтрымку. А дзе гэта больш за ўсё магчыма, як не ў асяродку блізкіх! Лепей — у дружнай сям'і. Нездарма ж рашэннем Арганізацыі Аб'яднаных Нацый сёлетні год нават аб'яўлены Годам сям'і. Але ж акцыя міне, а жыць і далей трэба.

Гэтак падумалася пасля прачытання ў расійскай газеце «Труд» (№ 57, 1994) трывожнага паведамлення пад загалоўкам «Беларусь — краіна старых». Спасылаючыся на сведчанні спецыялістаў, газета піша, што па тэмпах старэння Рэспубліка Беларусь, аказваецца, нават абганяе іншыя краіны Еўропы. Прычым нягледзячы на тое, што не толькі зніжаецца колькасць нованароджаных, але і павялічваецца смяротнасць увогуле. У той жа час расце армія пенсіянераў па старасці.

«Труд» прыводзіць лічбы канкрэтныя: ужо ў 1990 годзе на 100 працаздольных грамадзян у нас прыходзілася 120 пенсіянераў, але да 2010 года гэты паказчык яшчэ пагоршыцца, бо складзе 100 на 150. Праблему, заўважае газета, нельга будзе вырашыць простым павелічэннем цэнзу для атрымання права на пенсію да 65 гадоў, бо менавіта гэты ўзрост наогул з'яўляецца прагназуемай мяжой сярэдняй працягласці жыцця для мужчын Беларусі.

Спецыялісты Навукова-даследчага інстытута працы, піша ў заключэнне «Труд», мяркуюць, што ў выніку старэння працаздольнага насельніцтва Беларусі адбудзецца зніжэнне яго прафесійна-кваліфікацыйнай мабільнасці і канкурэнтаздольнасці на рынку працы.

Нікуды, на жаль, не падзецца ад таго, што ў нас будзе ўсё больш і адзінокіх старых. Некаторыя спадзяюцца, быццам у такіх варунках іх уратуе асабістае багацце, валюта ў замежных банках, «прыхватызаваная» маёмасць, каштоўнасці. Як усё можа здарыцца на самай справе, ўжо зараз яскрава бачна на прыкладзе Масквы, дзе асабліва вялікая канцэнтрацыя пенсіянераў і ўвогуле пажылых людзей без блізкай радні. Тысячы іх штогод становяцца ахвярамі банд грабежнікаў ці жывуць у страху за сталёвымі дзвярыма, сотні з іх у апошні час пад прымусам прадалі свае прыватызаваныя кватэры цёмным дзялкам, а потым раптоўна памерлі ці зніклі без следу.

Аналізуючы рэчаіснасць, выхад бачыцца адзіны: як мага хутчэйшае рэфармаванне вытворчасці, каб яна стала высокаэфектыўнай (па прыкладу Японіі, Тайваня, Сінгапура ці той жа Фінляндыі), рашучае спыненне некантралюемага ўезду да нас на сталае месцажыхарства (Германія, напрыклад, якая ўпусціла да сябе сотні тысяч турак для абслугоўвання сваіх пенсіянераў і раньцы, зараз знаходзіцца на мяжы этнічнай вайны). І ўсё гэта пры шчыльным згуртаванні ўласнага народа на грунце нацыянальнай ідэі. Выхаванне нацыянальнай самасвядомасці, роднасці ўсіх грамадзян Беларусі трэба ўсімі сродкамі выхоўваць, пачынаючы з дзіцячых садкоў, з першага класа школы. Дарэчы, нездарма зараз ва ўсім свеце, асабліва ў рэгіёнах, дзе людзі востра адчулі па нейкіх прычынах пагрозу ўласнаму існаванню, узмацняецца такое інстынктыўнае пачуццё, як нацыяналізм. Як сям'я шчыльней гуртуецца ў часе небяспекі, гэтак жа і народ падымаецца плячо да пляча.

У нашых умовах хуткага старэння нацыі трэба быць асабліва пільнымі і дружнымі. Неабходна таксама ўсвядоміць: беларусы ні ў якім разе не павінны пагаджацца на далучэнне сваёй тэрыторыі да каго б там ні было з суседзяў, як бы нехта прыгожа і прывабна такую акцыю ні абстаўляў. Нельга браць значныя пазыкі ў іншай дзяржавы, бо па даўгі можа прыйсці яе армія. Нельга згаджацца на існаванне чужых ваенных баз. Неразумна закладваць агульнанародную маёмасць, асабліва зямлю, пад крэдыты, якія давядзецца аддаваць нашым дзецям. Каб не пакінуць іх без зямлі і без грошай. Словам, будзем праводзіць дальнабачную нацыянальную палітыку — выжывем. І неяк, дасць Бог, акрыяем. Хоць лёгкага паратунку, як і шляху да лепшага жыцця хаця б нашым нашчадкам, няма. Мы яго праспалі, спадзеючыся на зону камунізму.

Ул. АСІНАЎСКІ.

# Вучымся!

*Мікалай КРЫЎКО*

## *СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ*

ПАДПІСАЦЬ (паставіць подпіс для пацвярджэння, пасведчання чаго-н.) *Прыйшоў аднаго разу Багдан у сельсавет, яму нешта трэба было, каб там напісалі ці падпісалі* (Кулакоўскі), ПАДМАХНУЦЬ размоўнае (падпісаць што-н. наспех, на хаду, не чытаючы) *Дуб — верхавод тае дубровы — Зазначыў: «Вельмі моцны Пень» і падмахнуў загад у той жа дзень* (Маеўскі).— Незак.: **Падпісваць, падма́хваць.**

ПАДПІЎШЫ (у стане лёгкага ап'янення) *Пакуль начальнік быў падпіўшы толькі ледзь, Усё ішло як след,— ён ветліва ўхмыляўся* (Корбан), НАПАДПІТКУ разм. *Пан Кастусь Кроер, распатланы, як заўжды нападпітку* (Караткевіч), ВЫПІЎШЫ разм. [*Старшыня:*] *— Каюся,— сам іншы раз выпіваў. І даволі часта. А зараз — кропка! І не ўбачыце мяне выпіўшы* (Корбан), ПАДВЫПІЎШЫ разм. *А ён, Іван Сцяпанавіч, прыехаў з кірмашу падвыпіўшы* (Брыль), ПАД ЧАРКАЙ разм. *Быў ён* [*Хруцкі*] *заўсёды пад чаркай* (Парахневіч), ПАД МУХАЙ разм. *Ігар Сарока ўжо працаваў у горадзе. Толькі на выхадны прыязджаў дадому і ў клуб прыходзіў пад мухай* (Сіняўскі).

ПАДПІЦЬ разм. (крыху ап'янець ад выпіўкі) [*Альжбета:*] *Не смяшы ты людзей. Калі падпіў, дык ляж спаць!* (Купала), ПАДВЫПІЦЬ разм. *Падвып'юць, ведаеш, мужчыны, Ото гаворка распачнецца!* (Колас).

ПАДПОРКА (падстаўка, слуп, які падпірае тое, што можа абваліцца, упасці, зламацца) *У садках — падпоркі пад яблынямі, жаўтабокія антонаўкі раз-пораз бухкаюць на зямлю* (Навуменка), *Знайшоўся якісьці добры чалавек, нарабіў бабінай хатцы падпорак і абклаў яе прызбаю* (Якімовіч), ПАДПОРА *Бярозавыя падпоры гнуцца пад цяжарам спелых антонавак* (Грамовіч).

ПАДПЯВАЦЬ (памагаць спяваць каму-н.) *Спявала цётка, і ледзь чутна падпявалі ёй госць і дзядзька* (Вышынскі), ПАДЦЯГВАЦЬ *Якімка спачатку стаяў збоку і слухаў, а потым падышоў да агню, падсеў да спевакоў і, як умеў, пачаў падцягваць* (Курто). Зак.: **Падпець, падцягну́ць.**

ПАДРАБЯЗНАСЦЬ (дробная акалічнасць, выпадак; дробная, асобная частка, элемент чаго-н.) [*Мікола і Таня*] *абгаварылі ўсе падрабязнасці будучага вяселля: і калі яго пачаць, і каго запрасіць, і як трымацца на людзях* (Новікаў), ДЭТАЛЬ *Жэня неяк паспешліва закончыла свой расказ, прыпомніўшы яшчэ дзве-тры дэталі нашага студэнцкага жыцця* (Васілевіч), ПРЫВАТНАСЦЬ [*Паэт*], *клапоцячыся пра зладжанасць і зграбнасць свайго твора нават у прыватнасцях, скарацій нямала пейзажных уставак* (Бугаёў), ТОНКАСЦЬ пераважна мн. лік *Чалавек, які пазнаў тонкасці і тайны сваёй прафесіі, які любіць яе, укладвае ў яе ўсю сваю душу, заўсёды выклікае ў нас павагу* («Звязда»), ДРОБЯЗЬ (нязначная, неістотная частка) *Паэта цікавілі і хвалявалі ўсе дробязі вясковага жыцця* (Кухараў), *У цёткі Аўгінні было цяпер шмат работы, і ёй не было калі зважаць на такую дробязь, як парадак у хаце* (М. Стральцоў), ДРАБНІЦА *Апанасу ўспомнілася ва ўсіх драбніцах яго жыццё* (Колас), ДРАБЯЗА (што-н. нязначнае, неістотнае, не вартае ўвагі) *Пасядуць* [*Галяш і Зоська*] *адно насупроць другога і перапытваюць усялякую драбязу* (Чорны).

ПАДРАБЯЗНЫ (які змяшчае не толькі асноўнае, але і дробязі, дэталі) *Мне захацелася яшчэ раз расказаць пра яго* [*А. Гурыновіча*] *як пра грамадзяніна, паэта, вучонага, даць больш падрабязную інфармацыю пра яго жыццё, літаратурна-грамадскую і навуковую дзейнасць* (Шутовіч), ДЭТАЛЁВЫ [*Лясніцкі*] *доўга радзіўся з камандзірамі, складаў дэталёвы план* (Шамякін), ДАСКАНАЛЫ узмацняльнае *Дасканалыя звесткі.*

ПАДРАДЗІЦЦА (даць згоду зрабіць што-н., узяцца зрабіць якую-н. работу каму-н.) *Кукарэка, ахвотны да размовы, падрадзіўся ісці і паказаць дом старшыні* (Грамовіч), ПАДРУЧЫЦЦА *Каля крайняга дома на сцяжынцы* [*Каця*] *ўбачыла санітарку, спытала, дзе знайсці лётчыка, якога два дні назад палажылі на лячэнне. Санітарка падручылася паказаць* (Алешка), ПАДАХВОЦІЦЦА разм. (добраахвотна ўзяцца за выкананне якой-н. справы, працы і пад.) *Двое пяцікласнікаў падахвоціліся збіраць калекцыі жучкоў і насякомых* (Краўчанка).— Незак.: **Падраджа́цца, падруча́цца, падахво́чвацца.**

ПАДРАЗУМЯВАЦЬ (не называючы каго-, чаго-н. прама, абмяжоўвацца намёкамі, іншасказаннямі і пад. пры згадванні пра тое, пра што думаеш) *Тут* [*у рэлігійных кнігах*] *пад імем прасвятой тройцы трэба падразумяваць адзінага Бога ў трох асобах* («Пытанні рэлігіі і атэізму»), МЕЦЬ НА ЎВАЗЕ *Іван памкнуўся быў растлумачыць, што ён меў на ўвазе пад словам «у кожнага», аднак змаўчаў...* (Васілевіч), РАЗУМЕЦЬ *Пад лексікай разумеюць усю сукупнасць слоў мовы.*

## Язык як перац

Дабіцца, як з каменя вады.

Дабраліся, як дзве кроплі вады (пра аднолькавых).

Далікатны, як ангельскі цюцька.

Далікатны, як куранятка.

Дапамог (памог), як хваробе кашаль.

Дапаможа, як папова малітва (ані не дапаможа!).

Дарагая, як крыніца.

Дарагі, як свая душа.

Дарагі, як сонейка яснае.

Дарога, як страла.

Дарога, як струна.

Даўganогі, як бусел.

Даўгашыі, як бусел.

Даў, як вераб'ю (як зайцу) на закуску.

Даў, як з рукава.

Даў, як на раз укусіць.

Даў, як украўшы.

*УДАКЛАДНІМ*

## Знакі прыпынку пры выклічніках і гукаперамальных словах

***Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА***

1. Выклічнікі, якія знаходзяцца ў пачатку сказа, пры звычайнай інтанацыі аддзяляюцца ад іншых слоў пры дапамозе коскі: *Ах, як прыгожа пра жыццё пяюць падружкі за сялом!* (П. Броўка). *О, які тут лес прыўдалы!* (Якуб Колас).

Коска не ставіцца:

калі выклічнікі ўтвараюць непадзельныя выразы з часціцамі і займеннікамі: *Эх і лес жа тут, лес!* (Янка Маўр). *А ну яго!* (Я. Брыль). *Ух ты! Якая слаўная мясцінка!* (Якуб Колас). *Ой што тут зробіш!* (І. Мележ);

калі выклічнікі цесна прымыкаюць да аднаго з паўтараемых слоў у сказе: *І ляцім жа, браткі, эх ляцім!* (М. Лынькоў). *І нічога, ну нічога ёй не памагае* (Янка Купала). *Марна прападае маладое жыццё, ох марна* (М. Зарэцкі);

калі выклічнікі знаходзяцца перад асабовымі займеннікамі **ты, вы,** за якімі стаіць зваротак: *Ой ты месяц, любы дружа, паплыві на мора* (А. Русак). *Эх ты, лета гарачае, бурнае! Ажыўляеш ты поле і луг* (Янка Купала). *Эх вы дарогі жыцця, што там за вамі ўдалі?* (Максім Танк).

2. Калі ў пачатку сказа знаходзіцца некалькі выклічнікаў, якія ў нязменнай ці зменненай форме паўтараюцца, то пры раз'яднальнай інтанацыі яны аддзяляюцца ад іншых слоў (а таксама адзін ад другога) пры дапамозе коскі: *Ах, ах, як усё кругом прыгожа!* (Міхась Чарот). *Гэй, гэй, весялей варушыся, конік* («Народная творчасць»). *Ох, ха, многа за слязамі часу я патраціў!* (Якуб Колас).

Пры аб'яднальнай інтанацыі, як правіла, утвараецца састаўны выклічнік, які аддзяляецца ад іншых слоў у сказе коскай, а адна частка ад другой — дэфісам: *Ха-ха-ха, якраз з'явіўся на разбор шапак* (Кузьма Чорны). *Ай-яй-яй, што за цуд!* (Якуб Колас). *О-го-о-о, ты так думаеш?* (І. Грамовіч).

3. Выклічнікі, якія знаходзяцца ў пачатку сказа і суправаджаюцца ўзмоцненай **інтанацыяй** аддзяляюцца клічнікам, а наступнае слова пішацца з вялікай літары: *А! Вось і вы! Міласці просім!* (Якуб Колас). *Э! Сёмка Бегунок ідзе!* (П. Глебка). *Хо! Чую сапраўдны голас рыбака* (І. Гурскі).

**Заўвага.** Напісанне малой літары пасля клічніка не з'яўляецца нарматыўным: *Эт! сіла рушыла чужая!* (Якуб Колас). *Жарты! з цёмнага не прысеў ні на мінутку* (Кузьма Чорны).

4. Выклічнікі, якія знаходзяцца ў сярэдзіне сказа, пры звычайнай **інтанацыі вы**дзяляюцца з двух бакоў коскамі: *Не шукай ты шчасця, долі на чужым, далёкім полі, гэт, за шумным лесам-борам* (Янка Купала).

Пры ўзмоцненай інтанацыі і яркай эмацыянальнай афарбоўцы выклічнікі ў сярэдзіне сказа выдзяляюцца з абодвух бакоў працяжнікамі, прычым непасрэдна за выклічнікам ставіцца клічнік: *Павага мне — уга! — ад сыноў у хаце* (А. Бялевіч). *Пайшоў дзед ды — а-я-ей! — здзівіўся* (Я. Брыль). *Толькі — вой! — у нас цэлую зіму вароты не адчыняліся* (І. Шамякін).

***БЕЛАРУСЫ-ФІЛОЛАГІ***

## *Славуты санскрытолаг*

Менавіта так у слоўніку Бракгаўза і Эфрона напісана пра Каэтана Касовіча (1814—1883), які нарадзіўся ў Полацку 180 гадоў таму. Пасля заканчэння Віцебскай гімназіі ён паступіў у Маскоўскі універсітэт. Пасля заканчэння універсітэта К. Касовіч выкладаў грэцкую мову ў Цвярской, а пасля ў другой Маскоўскай гімназіі. Але і сам удасканальваў веды: пачаў вывучаць яўрэйскую і арабскую мовы, а пазней зацікавіўся санскрытам. Гэтая мова настолькі яго захапіла, што ўсё сваё далейшае жыццё Касовіч прысвяціў менавіта ёй. Паводле сваёй сістэмы вывучэння мовы — «ён уваходзіў у дух і канструкцыю мовы», — малады настаўнік вывучыў санскрыт дасканала: чытаў і перакладаў «Махабхарату» і «Рамаяну». Неўзабаве пераклады ўрыўкаў з гэтых твораў пачалі з'яўляцца ў расійскіх часопісах. Пасля Касовіч стаў складаць «Санскрыта-расійскі слоўнік», першы том якога з'явіўся ў бібліятэках у 1854 годзе. На той час малады вучоны пераехаў у Санкт-Пецярбург, дзе з 1858 года пачаў чытаць лекцыі па санскрыцкай мове і літаратуры ва універсітэце.

Ды ўсё ж найперш Каэтан Касовіч зацікавіўся беларускай мовай. Пра гэта можна меркаваць з яго публікацыі ў газеце «Молва» (№ 21, 1835 г.). Там была надрукавана беларуская балада «Скажы, клён, ці ты не дзераўца?». Да тэксту гэтай песні дадзены каментар: «Заўважу, дарэчы, што беларуская гаворка зусім не літоўская, як многія памылкова сцвярджаюць... Сапраўдная беларуская мова, як можна бачыць паводле песні, абсалютна не польская. Таксама яе нельга назваць і расійскай...»

У гэтым каментары Каэтан Касовіч, які падпісаўся псеўданімам «Белорус К.К.», тлумачыць некаторыя беларускія словы: кажа, забіты, палавы (буры) мядзведзь, зязюлька. Можна меркаваць, што ў іншым грамадскім і дзяржаўным ладзе мог бы з'явіцца «Санскрыта-беларускі слоўнік», а Касовіч быў бы Настаўнікам пакаленняў беларускіх філолагаў.

**З. С.**

## ПЛАН

### *НАВУЧАЛЬНЫХ ТЭЛЕПЕРАДАЧ НА ТРАВЕНЬ 1994 ГОДА*

| № п/п | Дата | Клас | Прадмет | Тэма |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 93. | 2,3 | 4 | мая радзіма – Беларусь | Зямельныя і водныя багацці Беларусі, яе карысныя выкапні |
| 94. | 3,4 | 8 | беларуская літаратура | Суровая праўда вайны /аповесць Васіля Быкава „Жураўліны крык"/ |
| 95. | 5,6 | 10 | беларуская літаратура | Заўсёды з народам /Пятрусь Броўка і яго паэзія/ |
| 96. | 10,11 | 11 | беларуская літаратура | Сучасная беларуская драматургія |
| 97. | 12,13 | 9 | беларуская літаратура | Песняр красы і гармоніі /Максім Багдановіч і яго паэзія/ |
| 98. | 16,17 | 9 | геаграфія Беларусі | Знешнія эканамічныя сувязі Беларусі |
| 99. | 17,18 | 8 | музыка | Характэрныя асаблівасці музыкі джаза |
| 100. | 19,20 | 7 | выяўленчае мастацтва | Ахова помнікаў культуры на Беларусі |
| 101. | 23,24 | 4 | выяўленчае мастацтва | Віды і жанры выяўленчага мастацтва |
| 102. | 24,25 | 7 | выяўленчае мастацтва | Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі |

*Культура мовы*

# Дакуль будзе датычваць ды датычвацца?!.

КАСАТЬСЯ *несов.* 1. *(дотрагиваться)* дакранацца *(да каго-чаго)*: **к. рукой стола** дакранацца (датыкацца) рукой да стала; 2. *(затрагивать) перен.* закранаць *(каго-што)*: **в книге автор ∼ется важных вопросов** у кнізе аўтар закранае важныя пытанні; 3. *(иметь отношение)* тычыцца, датычыцца, датычыць:**это меня не∼ется** гэта мяне не тычыцца (не датычыцца); 4. ісці *(пра каго-што, аб кім-чым)*: **речь ∼ется музыки** размова (гаворка) ідзе пра музыку.

Нягледзячы на прыведзенае (працытаванае), ва ўсіх стылях сучаснай беларускай літаратурнай мовы словы ***тычыць, тычыцца, датычыць, датычыцца*** зблытваюцца як іхнімі значэннямі ці адценнямі апошніх, так і граматычнымі формамі ды значэннямі саміх слоў. Нават у дзіцячую мову сілком упіхваюцца такога роду «перлы»: *«У чым справа?»* — пытаецца Папугай і гэтак жа зацяганавана і скалькавана адказвае: *«Гэта нас не датычваецца!»* Не толькі з высокай трыбуны Вярхоўнага Савета РБ, але і лепшыя нашы дыктары пускаюць у эфір выказванні тыпу *«Наша інфармацыя тычыцца (датычыцца, дытычваецца) беларуска-расійскіх адносін»* і шмат інш. А ў выпусках «Культура мовы журналіста» нават крытыкуюцца публічна тыя, хто не ўжывае выдзеленых вышэй словаў замест ***дакранацца, датыкацца*** і інш. Колькі ні змагаўся Ф. М. Янкоўскі пры жыцці і колькі ні пакінуў наказаў у сваіх працах перакладаць канструкцыі накшталт *«Что касается белорусов, то они...»* адпаведнай, надзвычай ёмкай *«Што да беларусаў, то яны...»*, усё роўна на кожнай старонцы любой з беларускамоўных газетаў сустракаем *«Што тычыць (датычыць, датычыцца, тычыцца)...»* Тут, напэўна, зрабіў свой «уклад» і Тлумачальны слоўнік беларускай мовы (Мн., 1977—1984), які рэгламентаваў вышэйпамянёныя словы як літаратурныя нормы, а выразы **«Што датычыцца (датычыць каго-чаго, то...»** і **«Удачненні да каго-чаго»** звёў да фразеалагічнага рангу!

Ці можна зараз, калі адраджаюцца ўсе падсістэмы беларускай літаратурнай мовы, абысціся без названых словаў і выразаў, зацяганых, зашмальцаваных больш за ўсё нашымі журналістамі? Вядома, можна. І найперш замяняючы гэтыя моўныя штампы і трафарэты на сінанімічныя, адэкватныя паняцці, выражаныя як адным словам, так і некалькімі...

Той жа Папугай мог сказаць хораша па-беларуску накшталт: *«Што такое? А гэта нас не кранае»* *(хвалюе, турбуе, не мае дачынення да нас, не пра нас, не нашы справы, турботы, клопаты* і г.д.) Той жа дыктар мог перадаць думку лепш і карацей: *«Наша інфармацыя пра беларуска-расійскія адносіны»*. Тую ж канструкцыю *«Што да беларусаў, то яны...»* можна аматарам шматслоўя замяняць і такой: *«Калі (як) гаворка зайшла (ідзе) пра беларусаў, то яны...»*. У тым жа ТСБМ тлумачэнні словаў «датычыцца», «датычыць» і «тычыцца» больш мілагучныя і культурныя, чым іх адпаведнікі: *«Мець адносіны, дачыненне да каго-, чаго-н.»*. У тым жа РБС вытворныя ад «касаться» і «коснуться» пазбаўленыя пры перакладзе ад «тычыць», «тычыцца», «датычыць» і «датычыцца» (гл. беларускамоўныя адэкваты да словаў ***прикосновение, прикосновенный, прикоснуться, соприкоснуться, соприкосновение*** і інш.).

Чаму ж не патрэбныя нашай літаратурнай мове словы «тычыць», «тычыцца», «датычыць» і «датычыцца»? Бо яны штучныя, надуманыя, сілком навязаныя літаратурнаму маўленню. Яны не стасуюцца да сучаснага беларускага дзеяслоўнага формаўтварэння і словаўтварэння. Яны немілагучныя, бо сваёй унутранай формай перакліка юцца са словамі «тыцкаць», «тыцкацца», «тышчыцца» ды іншымі.

Мікола АБАБУРКА.

г. Магілёў.

*Меркаванні*

# Даведнік патрэбны, але...

***Вясной мінулага года на паліцах кнігарняў Магілёўшчыны з'явілася новая кніга «Выживем после Чернобыля! Справочник для населения Могилевской области».***

«Справочник» выдадзены выканкамамі Магілёва і вобласці разам з газетай «Магілёўская праўда». Ён прысвечаны праблемам, якія ўзніклі пасля чарнобыльскай трагедыі. Беглае знаёмства са зместам паказала, што падобная кніга для нашай вобласці вельмі патрэбная. Але знаёмства больш дэталёвае выявіла шматлікія хібы, на што і звяртаю ўвагу.

Здзіўляе і засмучае, па-першае, ужо тое, што кніга выпушчана на расійскай мове. Няўжо выдаўцы не ведаюць, што дзяржаўнай мовай нашай краіны ў адпаведнасці з прынятым Законам аб мовах з'яўляецца беларуская мова?

Па-другое, гэты даведнік далёка не поўны. Зусім няма, у прыватнасці, даных па шмат якіх вёсках вобласці. Напрыклад, у Бабруйскім раёне (Хімоўскі сельсавет) адсутнічаюць звесткі пра чатыры вёскі і два пасёлкі. У Кіраўскім раёне (Баравіцкі сельсавет) няма дадзеных па васьмі вёсках і г.д. Няма звестак таксама па ўсіх рабочых пасёлках (Градзянка, Ялізава, Глуша). Не апублікаваны і радыяцыйны фон у зоне прыгарадных дач Бабруйска, Асіповічаў, Крычава, Горак і іншых гарадоў. Таму лепш было б напісаць у прадмове, што даведнік няпоўны.

Але пералік хібаў і недакладнасцей згаданага даведніка гэтым не вычэрпваецца. У кнізе чамусьці няма раздзела «Дрыбінскі раён». Як вядома, Указ аб яго ўтварэнні быў падпісаны яшчэ 29 снежня 1989 года. А даведнік быў здадзены ў друк напрыканцы 1992 года.

У кнізе маюцца і шматлікія паўторы. Так, у Чырвонаслабодскім сельсавеце Быхаўскага раёна існавала вёска Александроў. Але ўжо некалькі гадоў, як насельніцтва вёскі было перaселена, а вёска перастала існаваць. Складальнікі даведніка прыводзяць назву гэтай вёскі ў спісе і вёсак існуючых, і вёсак адселеных. І гэты выпадак не адзінкавы. Назвы 11 адселеных вёсак Касцюковіцкага раёна засталіся ў спісе існуючых. У Краснапольскім раёне такіх самых выпадкаў я, напрыклад, налічыў 39, у Слаўгарадскім — 9, у Клімавіцкім — 14, у Чэрыкаўскім — 17.

Складальнікі, відаць, вельмі спяшаліся, таму і нарабілі столькі памылак. Чым яшчэ растлумачыць, што яны адвольна і беспадстаўна перавялі ў лік гарадоў гарадскія пасёлкі Бялынічы, Кіраўск, Хоцімск і Краснаполле?

Да гэтага часу я ведаў, што ў Магілёўскай вобласці ёсць вёска Дашкаўка і аднайменная чыгуначная станцыя. А са «Справочника» атрымаў інфармацыю, што цяпер з'явіўся яшчэ і пасёлак Дашкаўка. На яве па-ранейшаму існуе толькі станцыя Дашкаўка і вёска з гэткай жа назвай. Часам у кнізе сустракаюцца незразумеласці. Так, на стар. 150 паведамляецца, што ў Чэрыкаўскім раёне адселена забруджаная радыяцыяй вёска Каменка. Але ж якая Каменка, бо ў раёне ёсць тры вёскі з гэткай назвай (у Вепрынскім, Верамейкаўскім, Лабанаўскім сельсаветах)?

Наклад «Справочника» — 10 тысяч паасобнікаў. Пагадзіцеся, што для вобласці гэта значны наклад. А вось кніга Я. Рапановіча «Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці» была выдадзена ў Менску ў 1983 годзе накладам усяго 2230 паасобнікаў. Цяпер яна стала рэдкасцю.

Калі неўзабаве ўзнікне неабходнасць перакласці «Справочник» на беларускую мову, то ўсе тапонімы неабходна назваць у адпаведнасці са слоўнікам Рапановіча. Гэта будзе спрыяць захаванню гістарычных назваў нашай Магілёўшчыны.

Валянцін ЖЫДЦ.

г. Бабруйск.

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ў пытаннях і адказах

## Чаму бальшавікі пайшлі на стварэнне БССР?

Бальшавікі, хоць і не прызнавалі беларускае нацы, двойчы стваралі БССР (называлася яна тады ССРБ): 1 студзеня 1919 года і ў канцы ліпеня 1920 года. Першы раз — каб супрацьпаставіць яе Беларускай Народнай Рэспубліцы, якая з'яўлялася рэальным цэнтрам нацыянальна-вызваленчага руху. Аднак праз месяц самі ж ліквідавалі рэспубліку, разагнаўшы першы беларускі савецкі ўрад на чале са Зміцерам Жылуновічам (літаратурны псеўданім Цішка Гартны). Усходнія беларускія губерні перадалі ў склад РСФСР. Рэшту далучылі да Летувы і ўтварылі так званы Літбел (Літоўска-Беларускую рэспубліку) са сталіцай у Вільні. У кіраўніцтве Літбела не аказалася ніводнага беларуса. **Ні ў ССРБ, ні ў Літбеле беларуская мова не дапускалася ні ў друку, ні ў дзяржаўным ужытку, не было ніводнае газеты на беларускай мове.**

31 ліпеня 1920 года бальшавікі адрадзілі ССРБ з прапагандысцкімі мэтамі, каб паказаць, што яны прызнаюць правa нацый на самавызначэнне на бальшавіцкай палітычнай платформе. Першапачаткова беларуская мова не дапускалася да афіцыйнага ўжытку. Але праз нейкі час пачалася шырокамаштабная палітыка беларусізацыі, каб працоўныя Заходняй Беларусі бачылі тут сваю радзіму і змагаліся за далучэнне да Савецкай Беларусі. Захапіўшыся магчымасцямі працы на роднай ніве і паверыўшы бальшавіцкай прапагандзе, у 20-х гадах у БССР пераехалі выдатныя беларускія дзеячы з-за мяжы: Максім Гарэцкі, Францішак Аляхновіч, Вацлаў Ластоўскі, Аркадзь Смоліч, Аляксандр Цвікевіч, Палута Бадунова і іншыя. Праз нейкі час усе яны разам з тымі, што бралі ўдзел у стварэнні ССРБ (Усеваладам Ігнатоўскім, Зміцерам Жылуновічам, Аляксандрам Чарвяковым ды іншымі), былі знішчаныя сталінскай рэпрэсіўнай машынай.

Уладзімір КАЗБЯРУК.

## Якія землі былі адабраныя ад БССР ў 1919 годзе і не вернутыя дагэтуль?

Праз паўмесяца пасля абвяшчэння БССР, 16 студзеня 1919 года, ЦК РКП(б) з удзелам У. І. Леніна пастанавіў «выдзеліць» з БССР Смаленскую, Віцебскую і Магілёўскую губерні, далучыўшы іх да РСФСР, а на тэрыторыі Менскай, Гарадзенскай і Віленскай губерняў утварыць Літоўска-Беларускую ССР. Такім чынам, БССР фактычна ліквідавалася. Анексія Смаленшчыны, Віцебшчыны і Магілеўшчыны была аформленая на пачатку 1919 года рашэннямі адпаведных губернскіх з'ездаў Саветаў. Пагадзіўся з ёю пад націскам бальшавікоў і I Усебеларускі з'езд Саветаў, які адбыўся ў пачатку лютага 1919 года ў Менску. У ліпені 1920 года БССР была абвешчана бальшавікамі другі раз, але толькі ў межах 6 паветаў былой Менскай губерні агульнай плошчай 52,4 тыс. кв. км.

Далі шэсць паветаў...

Ну, дзякуй за гэта,— засталіся з таго часу ў памяці людзей словы Янкі Купалы.

На пачатку 20-х гадоў уся Усходняя Беларусь заставалася ў складзе РСФСР. Толькі ў сакавіку 1924 года ў адказ на настойлівыя патрабаванні ўрада БССР Усерасійскі ЦВК прыняў пастанову аб перадачы Беларусі шэрага паветаў Віцебскай, Смаленскай і Гомельскай губерняў (Полацкага, Віцебскага, Гарадоцкага, Магілеўскага, Горацкага, Рагачоўскага, Быхаўскага, Клімавіцкага, Чавускага, паловы Амсціслаўскага). У снежні 1926 года да БССР былі далучаны Гомельскі і Рэчыцкі паветы. Аднак і пасля гэтага ў складзе РСФСР засталіся значныя тэрыторыі Віцебшчыны, Смаленшчыны і Браншчыны з беларускім насельніцтвам. Не вернутыя яны Беларусі да сённяшняга дня.

Міхась БІЧ.

## Дзе ў Беларусі былі арганізаваныя паўстанні супраць бальшавікоў?

Як вядома, паводле Берасцейскай мірнай дамовы, з сакавіка да верасня 1918 года пад уладай бальшавікоў заставалася толькі частка беларускіх земляў: Смаленшчына, усходнія паветы Магілеўскай ды паўночнаўсходнія Віцебскай губерняў. Тут бальшавікі праводзілі так званую «продовольственную развёрстку» (адбіралі ў сялян практычна ўсё збожжа). Гэта выклікала сялянскія паўстанні ў Варшанскім, Віцебскім, Горацкім, Клімавіцкім, Амсціслаўскім, Полацкім, Сенненскім ды Чэрыкаўскім паветах. У Сянно на чале паўстанцаў стаяў будучы народны камісар земляробства БССР Зміцер Прышчэпаў. Сенненскія ды варшанскія паўстанцы на нейкі час узялі ў свае рукі ўладу ў гэтых паветах.

Пасля адыходу немцаў (верасень—лістапад 1918 года) бальшавікі захапілі цэнтральную частку Беларусі. Яны па-ранейшаму абдзіралі сялян. У лістападзе супраць іх улады паўставаў Глыбоцкі павет, а ў сакавіку—красавіку 1919 года паўстанні прайшлі ў ваколіцах Гомеля, Кармы, Рагачова, Рэчыцы, Нясвіжа, Слуцка, Старобіна ды іншых гарадоў і мястэчак.

Антыбальшавіцкія паўстанні ўспыхнулі і ў 1920 годзе. Найбольшыя з іх Койданаўскае ды асабліва Слуцкае. У ліпені 4 дні трымалася так званая Кайданаўская Незалежная Рэспубліка. У лістападзе—снежні Рада Случчыны, узначаленая беларускімі сацыялістамі-рэвалюцыянерамі, падняла 10 тысяч чалавек, арганізавала іх у два палкі. Цэлы месяц паўстанцы трымалі ўладу Беларускай Народнай Рэспублікі ў 15 валасцях.

У 1921 годзе на тэрыторыі Беларусі дзейнічалі партызанскія аддзелы (агулам каля 3,5 тысячы чалавек).

Узброены супраціў бальшавікам аказваўся і пазней. У прыватнасці, у літаратуры згадваецца Лепельскае паўстанне «аднаасобнікаў» перыяду калектывізацыі, дэталі якога нам дасюль невядомыя, бо савецкі друк наўмысна замоўчваў народныя выступленні.

Як бачна, беларускі народ не пакорлівы і тым больш не з радасцю, як сцвярджала бальшавіцкая прапаганда, прыняў іхную ўладу, а паўсюль аказваў пасіўны ці адкрыты супраціў.

Анатоль СІДАРЭВІЧ.




Адным з пачынальнікаў свецкай албанскай паэзіі быў Антон Зако-Чаюпі (1866—1930). Пераклады яго вершаў падрыхтаваныя з дапамогай знаўцы албанскай мовы і культуры Вінцэся Мудрова.

*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

АНДОН ЗАКО-ЧАЮПІ

## Няволя

Ты, Айчына, матуля мая,
Як жыццё — так люблю цябе я.
Калі ж волю, мой краю, здабудзеш,
То яшчэ даражэйшы мне будзеш.
Плачце, камяні ды горы,
Плачце, мілыя сялібы:
Край у роспачы і горы,
І на ім — пакутаў глыбы.
Не ўгледзіш кветак ды вясны,
А — туманы, а — туманы!
Над краем родным — навальніца,
Халодны подых завірухі,
І сэрцу болей не адкрыцца
Ад адзіноты і ад скрухі.
І ўжо не чутны спеў людзей,
Маўчыць над рэчкай салавей.
Наўкол — самота і пустэча,
І птушка вымкнула з жытла,
Бо ўжо апошняя сустрэча
З радзімаю маёй была...
І на чужыне спеў гучыць
Пра край, дзе гэтак цяжка жыць.
Албанія! Ты — як астрог,
І, вызваляючы братоў,
Сама ты сёння — бачыць Бог —
У рабстве праліваеш кроў.
Албанцы! Толькі ў барацьбе
На здзек не аддамо цябе.
Ты, Айчына, матуля мая,
Як жыццё — так люблю цябе я.
І як толькі ты волю здабудзеш,
То яшчэ даражэйшаю будзеш.

* * *

Я любіў бутоны, ружы і вяргіні,
Песні курапатак, пошчак салаўіны.
А цяпер усё я за сабой пакіну,
Бо спаткаў я радасць — мілую дзяўчыну,
Што, як свет адзіны.

Дзень мой поўны ёю — кветкаю жываю,
Бо яна — вяргіня, салавей вясновы:
Як ідзе па вуліцы, з чорнаю касою,
З вуснамі, як ружы, ўсмешкай маладою —
Я навекі з ёю.

І стаю, аслеплы ўжо зусім, здаецца,
І баюся з мілым позіркам сустрэцца.
Кожны нібы ясным полымем палае
І дружыць, як вочы тыя напаткае —
Шэпча: «О, якая!...»

Пераклад з албанскай
Навума ГАЛЬПЯРОВІЧА.

*Імпрэзы*

# Памяці Канстанціна Езавітава

**22 сакавіка ў менскім Доме літаратара была наладжана вечарына, прысвечаная 100-годдзю са дня нараджэння беларускага грамадскага і культурнага дзеяча, палітыка і вайскоўца Канстанціна Езавітава. Вечарыну, якую вяла пісьменніца Вольга Іпатава, адкрыла выступленне хору Універсітэта культуры. Пазней перад прысутнымі выступілі пісьменнік Сяргей Панізнік, гісторык і публіцыст Анатоль Сідарэвіч, бібліёграф Нацыянальнай бібліятэкі Валерый Герасімаў, афіцэр запасу Мікалай Статкевіч, прадстаўнік беларускай арганізацыі «Світанак» з Рыгі Вячка Целеш, паэт Віктар Шніп.**

**Са сцэны прагучалі вершы самога К. Езавітава, а таксама прысвечаныя яму старонкі рамана Кастуся Акулы «Змагарныя дарогі».**

Н.К.

*Мама, пачытай!*

*Васіль САХАРЧУК*

# Загадкі

*Паводле народнага*

* * *

Прыбег зубаты,
сеў каля хаты,
пытае ў брахала:
«Ці вырасла сала?»
Кажа брахала:
«Сала прапала».
Пабег зубаты
галодны дахаты.



* * *

Сярод хаты
кусцік мяты
з дрэва зняты:
хістаецца,
матаецца
і ў куток хаваецца.



* * *

Працавітыя малышкі
праз нару, нібыта мышкі,
без вядзерца і без лыжкі
носяць з поля сок на вышкі.



* * *

Без пажару
куча жару.



* * *

Ляжу на баку,
гляджу на раку,
а як паеду,
не пакіну следу.



* * *

Круглае, малое,
у радасць сухое,
а ў крыўду-бяду
пускае ваду.



# Прысвячаецца беларускаму класіку

*Імпрэзы*

Усе памятаюць, што мінулы, 1993 год стаў годам ушанавання памяці класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. У сувязі са 100-годдзем пісьменніка ў рэспубліцы адбылося шмат урачыстасцей, з'явілася шмат публікацый да юбілею.

На Магілёўшчыне не забыліся і на 101-ыя ўгодкі памяці свайго земляка, аб чым сведчаць трэція Гарэцкія чытанні.

Свае даклады на чытанні даслалі выкладчыкі Брэсцкага, Віцебскага і Магілёўскага педінстытутаў, Менскага, Гомельскага, Гродзенскага і Полацкага дзяржаўных універсітэтаў, Беларускага эканамічнага універсітэта, Беларускага аграрнага тэхнічнага універсітэта, Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, Беларускай політэхнічнай акадэміі, Беларускага тэхналагічнага інстытута, настаўнікі, работнікі бібліятэк і музеяў Магілёўскай вобласці.

У рабоце Гарэцкіх чытанняў бралі ўдзел і навукоўцы АН Рэспублікі Беларусь на чале з акадэмікам, віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Радзімам Гарэцкім. На пленарным пасяджэнні слова бралі народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт АН Беларусі М. І. Мушынскі, сакратар Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь І. А. Аношкін, загадчык кафедры беларускай і рускай моў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі В. П. Зянькович, кандыдат філалагічных навук, старшы выкладчык Брэсцкага педагагічнага інстытута У. У. Калянковіч, кандыдат філасофскіх навук, дацэнт кафедры гуманітарных дысцыплін Магілёўскага машынабудаўнічага інстытута М. М. Цярэшка.

На секцыях разглядаліся самыя розныя бакі творчай спадчыны пісьменніка, аналізаваліся яго філасофскія і сацыяльна-палітычныя погляды, працы ў галіне крытыкі і літаратуразнаўства, асаблівасці мовы твораў М. Гарэцкага, вывучэнне яго творчасці ў сярэдніх, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах Беларусі. Зборнік тэзісаў дакладаў удзельнікаў канферэнцыі будзе выдадзены на сродкі ўпраўлення культуры і ўпраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама, аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь, Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея, Магілёўскай абласной аб'яднанай бібліятэкі, іншых арганізацый, якія і з'явіліся ініцыятарамі чарговых Гарэцкіх чытанняў.

19 лютага на будынку музея М. Гарэцкага ў вёсцы Малая Багацькаўка на Мсціслаўшчыне была ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар пісьменніка (скульптар Астаф'еў Э. Б.). Такім чынам трэція Гарэцкія чытанні сталі новымі старонкамі ў кнізе памяці Максіма Гарэцкага.

**М. М. СТУДНЕВА,**
**супрацоўнік Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея.**

# Свята дзіцячай кнігі

Як вядома, пачатак вясновых школьных канікул супадае з традыцыйным тыднем дзіцячай літаратуры — «кніжчынымі імянінамі». Пра адкрыццё тыдня, якое адбылося ў сталічным Доме літаратара, «Наша слова» ўжо паведамляла. З Менска гэта свята дзятвы пакрочыла па іншых беларускіх гарадах, мястэчках, вёсках. Не сталі выключэннем і Асіповічы — адзін з раённых цэнтраў Магілёўшчыны, ціхі і ўтульны гарадок, размешчаны недалёка ад мяжы са сталічнай вобласцю.

Варта адзначыць, што да тыдня літаратуры для дзяцей і юнацтва тут як след падрыхтаваліся загадзя. Ва ўсіх дзяржаўных бібліятэках раёна (мясцовая цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма аб'ядноўвае 37 агульнадаступных няведамасных бібліятэк) напярэдадні былі аформлены стэнды з навінкамі беларускай дзіцячай і юнацкай літаратуры, у чытальных залах скамплектаваны падборкі часопісаў «Вясёлка», «Бярозка», «Пралеска», «Першацвет», «Маладосць» з падрабязнымі анатацыямі да матэрыялаў кожнага нумара, супрацоўнікі культурна-асветніцкіх устаноў аказалі метадычную дапамогу шматлікім школьным бібліятэкам у арганізацыі свята дзіцячай кнігі.

Цэнтрам урачыстасцей стала дзіцячая бібліятэка горада Асіповічы, у чытальнай зале якой 25 сакавіка сабраліся школьнікі, бібліятэкары і настаўнікі. Кароткім уступным словам свята адкрыла загадчыца гэтай бібліятэкі Л. П. Бязручка.

Затым пачалася мастацкая частка свята, сцэнарый якой цудоўна распрацавала бібліятэкар Марыя Скітовіч. Амаль паўтары гадзіны ў зале чуліся ўсхваляваныя дзіцячыя воклічы, смех. Сумаваць, сапраўды, не выпадала: прысутным прапаноўваліся займальныя віктарыны, правільна адказаць на пастаўленыя пытанні дазваляла толькі добрае знаёмства з лепшымі творамі беларускіх дзіцячых пісьменнікаў, цікавыя загадкі, конкурс «Ці ведаеце вы казку?», разумовыя гульні, крыжаванкі, тэатралізаваная інтэрмедыя, у галоўнай дзейнай асобе якой зала адразу беспамылкова пазнала старую Шапакляк з вядомага мульціка.

Да дзятвы прыехаў супрацоўнік «Нашага слова», празаік М. Віж, які расказаў аб газеце Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, пазнаёміў са зместам некалькіх яе апошніх нумароў, заклікаў усіх стаць падпісчыкамі штотыднёвіка, адказаў на пытанні аўдыторыі. Дарэчы, госця здзівіла, што ў Асіповічах амаль не ведаюць пра гэту газету, з усіх бібліятэк раёна «Наша слова» атрымліваюць толькі тры. Згаданую акалічнасць можна вытлумачыць найперш тым, што раённая арганізацыя ТБМ (старшыня П. П. Жданаў) недзеяздольная, яна фактычна пакуль існуе на паперы.

Што да свята дзіцячай кнігі ў райцэнтры, то яно ўдалося. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчылі зацікаўленыя, жывыя і адухоўленыя твары дзяцей, якіх гэта падзея наблізіла да скарбаў беларускай нацыянальнай культуры.

**Наш карэспандэнт.**

# Адраджэнне



**На здымку:** Храм Раства Багародзіцы ў вёсцы Урыцкага Гомельскага раёна.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ.

# Зварот

## Да ўсіх арганізацый Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны

**Паведамляем, што дэмакратычныя і патрыятычныя арганізацыі Беларусі заключылі пагадненне аб стварэнні Грамадскай кантрольнай камісіі (ГКК) з мэтай каардынацыі сваіх намаганняў па забеспячэнні законнасці ў часе правядзення выбараў. Да пагаднення далучыліся Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі, Беларускі народны фронт, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, Беларуская сялянская партыя, Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць, Партыя народнай згоды, Нацыянал-дэмакратычная партыя Беларусі, Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, Аргкамітэт беларускага згуртавання вайскоўцаў, Аб'яднаная аграрна-дэмакратычная партыя Беларусі, Саюз прадпрымальнікаў Беларусі, Беларуская экалагічная партыя, Беларускае таварыства інвалідаў. Старшынёй ГКК абраны лідэр БЗВ Мікола Статкевіч, намеснікам — намеснік старшыні ТБМ Сяргей Запрудскі.**

**Просім у найбліжэйшы час сумесна з прадстаўнікамі іншых зацікаўленых арганізацый сабраць сход і стварыць на ім мясцовую філію ГКК.**

**Таксама просім Вас:**

**1. Перадаць у рэспубліканскую ГКК прозвішча і імя кіраўніка, кантактны адрас і тэлефон Вашай філіі.**

**2. Арганізаваць вылучэнне прадстаўнікоў дэмакратычных і патрыятычных арганізацый ва ўчастковыя выбарчыя камісіі. Прадстаўнікі незарэгістраваных у вашай мясцовасці філій дэмакратычных арганізацый ці добраахвотнікі могуць быць вылучаны ва ўчастковыя выбарчыя камісіі ад імя і па пратаколах зарэгістраваных у вашым рэгіёне арганізацый*.**

**2. Апошні дзень перадачы пратаколаў у органы, што ўтвараюць камісіі,— 7 траўня 1994 года.**

**3. Рыхтаваць да вылучэння на ўсе выбарчыя ўчасткі вашага рэгіёна грамадскіх назіральнікаў.**

**4. Перадаваць звесткі аб колькасці ахопленых кантролем участкаў, аб канкрэтных фактах парушэнняў закону падчас выбарчай кампаніі ў рэспубліканскую ГКК на адрас: 220023, Менск-23, вул. Валгаградская, 9—41. Тэлефоны: 63-78-13, 36-09-09.**

**Далей інструктыўныя матэрыялы будзе перасылаць рэспубліканская Грамадская кантрольная камісія.**

* Заўвага. 1. У склад участковых камісій не могуць быць вылучаны сябры ініцыятыўных груп па вылучэнні кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.

**Сакратарыят ТБМ імя Ф. Скарыны.**

***УЗОР***

**ПРАТАКОЛ**
**пасяджэння Рады (кіруючага органа)**
**Баранавіцкай гарадской арганізацыі**
**Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**

**«......».................1994 г. ...............................**
**(дата пасяджэння) назва населенага пункта, адрас Рады, тэлефон**

**У склад Рады ўваходзіць .....чал.**
**На пасяджэнні прысутнічалі ......чал. (не менш 2/3).**

**Рада Баранавіцкай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны ў адпаведнасці з артыкулам 18 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь» вырашыла вылучыць у склад (назва раёна, горада і г. д.) Баранавіцкай гарадской выбарчай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сябра ТБМ Барткевіча Міколу Сцяпанавіча, які нарадзіўся 5 студзеня 1953 г., настаўніка Баранавіцкай сярэдняй школы № 2, які жыве па адрасе: ............ пашпарт серыя .... № ........ выдадзены .......................................... ..............(калі і кім).**

**Вынікі галасавання: «за» — 5, «супраць» — няма, «устрым.» — няма.**

**Старшыня пасяджэння (І. Гашкевіч).**
**Сакратар пасяджэння (П. Давідчык).**
**Пратакол завяраецца пячаткай арганізацыі.**

## УВАГА!

**Рэдакцыя газеты «Наша слова» пераехала ў новае памяшканне па адрасу: вуліца Чычэрына, 1 (каля тэатра оперы і балета). Праезд аўтобусамі № 24, 38, 72, 77, 91; тралейбусамі № 12, 25, 29, 27, 40, 43. Рэдакцыя газеты знаходзіцца на трэцім паверсе, пакоі № 316, 317, 318.**

Адрас рэдакцыі:
220029, г. Менск,
вул. Чычэрына, 1.

## *Афарызмы*

*Мація БОЧКАВІЧ*

Хто ўзвядзе помнік усяму народу?

Чаму народ, які не браў пазыкі, за яе разлічваецца?

Хіба ёсць народ і народ?

Ці ёсць народы на пенсіі?

Ці ёсць клопаты, большыя за народныя?

Калі двое б'юцца, хто з іх прадстаўляе народ?

Ці існуе народ, які не ў масе?

Ці ёсць ідэальныя народы?

Ці можна народ выдумаць?

Ці народ лепш захоўваецца ў халодным месцы?

Ці можна выбіць з народа?

За кім апошняе слова народа?

Ці можна сваёй смерцю памерці за народ?

А ці зброд — народ?

Няўжо толькі малыя народы клапоцяцца пра раўнапраўе?

Каму народ плаціць членскія ўзносы?

Ці дастаткова малых народаў дзеля міру ў свеце?

Каб не было захопнікаў, не было б славутай гісторыі малых народаў?

А ці ў манархіях быў народ?

Як застацца верным народу, які цябе пакінуў?

Ці для існавання двух народаў дастаткова адной рукі?

Ці слава аднаго народа ёсць трагедыя другога?

Ці ёсць народ, які адракаецца не сваім імем?

Ці магілкі — гэта мяжа паміж двума народамі?

Ці можа народ адкрыць прыватную дзяржаву?

Дзе ж гэткія народы былі ў час вайны?

Ці ёсць што-небудзь мацнейшае за непераможны народ?

Ці ёсць народы, здаволеныя сваёй місіяй?

Ці былі плебісцыты без народа?

Якая частка народа не прадстаўляе народ?

Ці ёсць народ, які не бездакорны?

Ці ёсць народ без ворагаў народа?

Чаму найлепшыя народы павыміралі?

Пераклаў з сербскахарвацкай мовы Іван ЧАРОТА.

# Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, «НАША СЛОВА»!

**З 5 траўня па 15 чэрвеня праводзіцца адпіска на беларускую перыёдыку на III квартал 994 года. Падпісная цана на наш штотыднёвік (з улікам паслуг сувязі); на 1 месяц — 600 рублёў;**
**на 3 месяцы — 1800 рублёў;**
**Індэкс 63865.**




Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Заказ 72.

МВПА імя Якуба Коласа,
Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка»,
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Індэкс 63865.

Наклад 7730 паасобнікаў
Падпісана ў друк 29.4.1994 г.
у 15 гадзін.